# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Вострабрамская вул. 9 (Ostrobramska 9). Рэдакцыя адчынена: **12—2** штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год II. Вільня. Аўторак, 4-га ліпня 1922 г. № 14 (39).

## Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток абвяшчае першы конкурс на сцэнічныя беларускія творы.

За 3 найлепшыя п'есы будуць выданы аўтарам прэміі:

1-я ў разьмеры 75.000 польск. мар.
2-я „ „ 50.000 „ „
3-я „ „ 25.000 „ „

Прэміі будуць прысуджаны спэцыяльна назначанай камісіяй, якая складаецца з прадстаўнікоў Бел. Навуковага Таварыства: п. Б. Тарашкевіча, кс. А. Станкевіча й М. Красінскага й прадстаўнікоў Бел. Муз.-Драм. Гуртка.

Рукапісы, прысланыя на конкурс, павінны быць надрукаваны на машыне, альбо чытальна напісаны на адным баку паперы, толькі ня рукой самаго аўтара, калі ён ужо шырока вядомы як літэратар. Прысылаць рукапісы трэба ў закрытым пакеце, куды павінна быць укладзена запіска з запраўдным прозьвішчам, імем і адрэсам аўтара. Запіска гэта павінна быць напісана рукой самаго аўтара, закрыта ў асобны канвэрцік, на якім рукою таго, хто пісаў рукапіс, трэба напісаць загаловак п'есы.

Калі аўтар захоча скрыць свае праўдзівае імя і выбера сабе псэўдонім, дык аб гэтым павінна быць сказана ў ў запісцы з яго ўсе такі праўдзівым імем і прозьвішчам з паказаньнем выбранага псэўдоніму. Запіска з імем аўтора будзе расьпечатвацца толькі тады, калі за яго п'есу будзе прысуджана прэмія.

Прэміраваныя п'есы будуць выданы Музыкальна-Драматычным Гуртком, як асобны зборнік з адлічэньнем з кожнага экзэмпляра 10% на карысьць аўтараў.

П'есы могуць быць напісаны вершам і прозаю абавязкова на беларускай мове і прысланы не пазьней 15-га жніўня (аўгуста) 1922 году па адрэсе:

**Вільня, Біскупская вул., № 12, у Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток (КОНКУРС).**

2-га верасьня 1922 году, у памешканьні Б. Муз.-Драм. Гуртка, адбудзецца ўрачысты вечар раздачы аўтарам прэміяў пры шырокім удзеле публікі, якая на вечары быць пажадае.

П'есы ўжо стаўленыя на беларускай сцэне, ці бышыя ў друку разглядацца конкурснай камісіяй ня будуць. Яны павінны быць арыгінальнымі, а не пераложанымі з іншых моваў.

Пры друкаваньні прэміраваных п'есаў Б. М.-Д. Гурток пакідае за сабой права рабіць рэдакцыйныя папраўкі.

## З палітычнага туману.

Ня глядзячы на тое, што палітычнае жыцьцё Эўропы робіць уражэньне як-быццам застою,— апошнія месяцы прынесьлі вельмі многа новага, аб чым яшчэ нядаўна нельга было зусім гаварыць і думаць. Можам сьмела сказаць, што фундамэнт, на якім пасьля сусьветнае вайны дзяржавы-пераможцы абаперлі так-званую „палітычную раўнавагу“ Эўропы, утраціў ужо сваю моц і значэньне.

Такім фундамэнтам дагэтуль — паводле думкі Францыі — зьяўляўся падзел усіх дзяржаваў Эўропы на пераможцаў і зваяваных, залічаючы да апошніх перад усім Нямеччыну. Немцаў недапусьцілі ў Лігу Нацыяў. Для Нямеччыны ўстанавілі „апеку“, як над чалавекам, пазбаўленым грамадзкіх правоў. Ей загадывалі кожын яе крок ня толькі ў справах ваеннага характару, але і эканамічнага, ня кажучы ўжо аб палітычным. І вынікам гэтага было тое, што канфэрэнцыя ў Генуі разьбілася: пад той час, як дзяржавы-пераможцы маніліся там солідарна прадыктаваць свае варункі прызнаньня і помачы Савецкай Расеі, — пераможаная Нямеччына, не пачуваючы сябе зьвязанай такой солідарнасьцю, зрабіла вельмі важную палітычную і эканамічную ўмову з Расеяй, ды гэтак усе мяркаваньні „антанты“ ўтрацілі сваю мэту і значэньне.

Канфэрэнцыя ў Генуі, да якое, цікава адзначыць, Амэрыка сваей рукі не прыкладала, ясна паказала немагчымасьць дайсьці запраўднага, моцнага міру, пакуль ня будуць зраўнаваны правы ўсіх дзяржаваў, якія аб гэтым міры маняцца дагаварывацца. Не здарма Амэрыка гэтак блага адносіцца да Лігі Нацыяў пры яе цяперашняй організацыі: нельга гаварыпь аб „шчырасьці“ і „добрай волі“ ў адносінах паміж дзяржавамі, адны з якіх карыстаюцца ўсімі правамі і не нясуць ніякіх абавязкаў, а другія ня маюць ніякіх правоў, а толькі павінны несьці на сваіх плячох усе цяжары адбудовы зруйнававае Эўропы.

Першая зразумела гэта Англія. Яе першы міністар, Лёйд Джордж, вельмі востра выступіў проці францускіх плянаў налажыць на Нямеччыну вельмі цяжкія кары ў прыпадку, калі-б немцы на 31 мая не заплацілі патрэбнае часткі кантрыбуцыі. Немцы грошы заплацілі. І вось цяпер той самы Лёйд Джордж заяўляе, што Англія будзе стаяць за тое, каб Нямеччына (а такжа Расея) была прынята ў Лігу Нацыяў на роўных з усімі правах.

Усё гэта паказвае, што ў туманнай палітычнай атмасфэры пачынае выкрысталізоўвацца новая аснова дзеля міжынацыянальных адносінаў, — аснова, рэзка праціележная асновам вэрсальскіх трактатаў. Трэба спадзявацца, што крысталізацыя закончыцца на канфэрэнцыі ў Гаазе, што цяпер адбываецца і становіць як-быццам працяг Генуэскае канфэрэнцыі.

Мы бачым ужо сымптомы вялікае зьмены ў міжынацыянальных адносінах, сымптомы, новага ўзросту палітычных уплываў і палітычнае ролі Нямеччыны ў Эўропе наагул і на Усходзе Эўропы асабліва. Бачым гэта ў настроях суседзяў Нямеччыны — з аднаго боку і ў ажыўленьні дзейнасьці нямецкае рэакцыі—з другога.

Гэтак, да нас даходзяць чуткі аб узросьце нямецкіх сымпатый у некаторых палітычных групах у Літве, якая ў апошнія часы кінулася больш у антанцкім кірунку. Адначасна нешта падобнае бачым і ў Польшчы—яшчэ так нядаўна самай вернай саюзьніцы Францыі. Тут павага і значэньне так-званых актывістаў, бараніўшых ідэю зьбліжэньня Польшчы з Нямеччынай, пачалі значна ўзрастаць, а гэтымі днямі адзін з найбольш дзікіх польскіх нацыяналістаў, Уладыслаў Студніцкі, зусім адкрыта выступіў у прэсе з прызывам, каб Польшча абаперлася на Нямеччыну. — Усё гэта важныя паказаньні палітычнага баромэтру, а прычына іх — усё вышэйсказанае.

Мы ўспамянулі і аб сымптоматычных выступленьнях нямецкіх рэакцыянераў, якія імкнуцца вярнуць у Нямеччыне монархічную ўладу. Вось-жа за ўвесь час, пакуль маладая нямецкая рэспубліка перамагала найцяжэйшыя труднасьці ў палітычным і эканамічным жыцьці, вынікаючыя з факту ваеннага разгрому яе,— манархісты ўсьцяж стараліся йшчэ больш затрудняць працу рэспубліканскага ўраду, каб гэтак пазбавіць яго веры народных масаў і падгатаваць грунт дзеля пavароту кайзэра. Апошнія-ж часы, калі нямецкі дзяржаўны карабель, кіраваны рэспубліканцамі, ня глядзячы на ўсе перашкоды, выплывае на спакайнейшыя воды, — манархісты вельмі ажывіліся. Яны лічаць, што як раз цяпер найлепшы мамэнт дзеля манархічнага пераваpоту: калі-б пераварот удаўся, дык рэакцыя бяз ніякае працы выкарастала-бы паляпшэньне палітычнага палажэньня Нямеччыны і прысвоіла-бы сабе заслугу гэтага паляпшэньня. Гэтым і трэба тлумачыць дзікое забойства імі нямецкага міністра заграпічных справаў, фон Ратэнаў, які вельмі заслужыўся бацькаўшчыне мудрым кіраваньнем яе заграпічные палітыкі.

Скажам яшчэ: у Эўропе насьпявае перастройка фундамэнтаў міру і палітычнае раўнавагі,— перастройка, якая мае выразную тэндэнцыю да зьмены істотнае ідэі вэрсальскага трактату і суліць шмат новага ў справах Усходу Эўропы, якія, здавалася, ужо былі разьвязаны аканчальна.

**М. Малішэўскі.**

## Руйнаваньне каапэрацыі.

У нас дужа часта прыходзілася і ўперад чуць, што праўдзівай каапэрацыі няма; што тыя каапэратывы, якія паўсталі ў астатнія гады пад прымусам недахвату: солі, цукру і г. д., якія завуцца: цукравымі, салявымі і г. д. яшчэ ня ёсьць каапэрацыя; што для кіраваньня імі няма працаўнікоў; што ў Управы і Рэвізыйныя Камісіі некага выбіраць, а выбраныя на каапэратыў глядзяць, як на сьродак для нажывы. Згодзімся на хвіліну з людзьмі, якія так кажуць і паверым, што тыя каапэратывы, якія былі, і яшчэ засталіся, ня ёсьць запраўднымі каапэратывамі, дык і тады мы павінны прызнаць, што яны усё-ж такі патрэбны і карыстны, бо цяпер ужо у кожным самым глухім вуглу ведаюць карысьць каапэрацыі, і запытайцеся кожнага селяніна і ён скажа: „каапэратыў дрэнна працуе, і тое і гэта у ім дрэнна, але ўсё-жткі ён нам патрэбны“.

Ня толькі сялянства і спажыўцы кажуць, што ім патрэбны каапэратыў, але і цяперашні Урад Польшчы нібы-то стараецца дапамагаць каапэрацыі: Дэлегат Ураду у Вільні абяцае дапамогі крэдытамі, сойм Варшаўскі ўжо даўно выдаў уставу аб каапэрацыі і г. д. Тут мы павінны сказаць, што усякая апека з боку Ураду і польскай эндэцыі, зьяўляецца шкоднай і без нажа рэжа каапэрацыю. Што-б не рабілася з боку мяйсцовай Улады у нас на Віленшчыне для каапэрацыі, дык усё для яе настолькі шкодна, што яна змушана гібець. Возьмем мы дапамогі. Грошы даюцца, але пры гэтым глядзючы, якія каапэратывы польскія, якія беларускія, жыдоўскія, літоўскія, і гэта пазычка у канцы канцоў зводзіцца для дапамогі „польскай“ каапэрацыі і гэту хвараблівую нацыянальную каапэрацыю, (усякая нацыянальная каапэрацыя гэта ужо ня ёсьць здаровая каапэрацыя, а ёсьць хвараблівая), цягнуць, як сілы, ў гару, ўносячы ў каапэрацыю нацыяналізм і шовінізм. Возьмем другі прыклад: законы аб каапэрацыі. Істнуе у нас рэгулючуючая жыцьцё каапэрацыі „распараджэньне № 255 Камісара Гэнэральнага зямель Усходніх аб таварыствах і саюзах“. Калі параўняць яго з расейскім законам, які быў пры царызьме, дык мы ўгледзім, што навет закон царскі быў лепшым, чым гэта распараджэньне, выдадзеная для „Крэсаў“ Польскай Рэспублікі, а ўвесь ён у іншых мяйсцох зьяўляецца пераказам гэтага цяжкага для каапэрацыі царскага закона. Тут каапэратывам прыходзіцца успомніць старую малітву каапэратараў: „збаў нас Божанька ад чыей небудзь апекі, а з сваімі ворагамі мы самі справімся“. Такім чынам, у каапэрацыі па-

ашчраецца нацыяналізм, а з нацыяналізмам уводзіцца ў каапэрацыю і палітыка, і робіцца гэта згары, дзякуючы таму, што розныяураднікі умешываюцца ў жыцьцё каапэрацыі, а істнуючыя законы з праўнага боку зусім зьвязываюць каапэрацыю па нагах і руках.

Можа быць з фінансавага боку ўсё добра? Каапэратыву абяцаюць крэдыт урадовы, каапэратыву даюцца прывілеі... Але, дарма!.. Карыстаючыся з таго, што каапэратывы вядуць рахунковасьць і ўчытываюць прыбыль дык падатныя ўраднікі тыпу „Віленскага Захарэвіча“ цэлым штатам капаюцца ў рахунковых кніжках, каб гдзе-небудзь знайсьці зацэпачку і найболей обложыць каапэратыў. Знайшлі прыбыль, дык 40—50% давай у скарб, а таго не глядзяць, што прыбыль у наш час гэта ёсьць розьніца на курсе маркі, бо з пачатку, напрыклад, 1921 года на 100.000 можна было купіць тавараў болей, чым у канцы 1921 года, калі каапэратыў хоць і меў тыя самыя 100.000 ды атрымаў яшчэ зыску новых 200.000, але навет за 300.000 ужо ня меў на складзе таварнага багацьця столькі сама сколькі ад пачаткі 1921 году, калі было толькі 100.000. Але-ж для ўраднікаў ёсьць урадовыя распараджэньні і рабі па шаблону! Купец-сьпэкулянт рахунковасьці, як каапэратыў, не вядзе ходзіць да паноў Захарэвічаў і гнець перад імі сьпіну нізка кланяючыся ім, а каапэратыўны працаўнік ня стане рабіць гэтага. Ну, і аблагаюцца каапэратывы так, што ў іншых забіраецца падатку болей чым таварыства мае паёвага капіталу, а сходы каапэратываў тым часам пастанаўляюць разабраць паі і зачыніць каапэратыў.

Так робіцца ня толькі ў цэнтры,— але ў на мяйсцох... Кожны староста робіць што хоча. Прыклад: Дунілавіцкі стараста—Станішэўскі зачыняе Мядзёльскі каапэратыў. Яму кажуць: ня маеце права.—Я, стараста так хачу!— адказывае гэты пан. Варшаўская каапэратыўная прэса робіць скандал, крычыць, але гэта справе не памагае й Мядзёльскі Саюз і па гэты час зачыненым застаецца.

Так змагаюцца з каапэрацыяй уводзячы сьпекуляцыю, і кажуць адначасна: Змагаймася з дарагоўлей!

1/VII. 1922. **Чыжэўскі.**

# Што чуваць у сьвеце?

### Завіруха ў Ірляндыі.

У Ірляндыі зноў выбухла паўстаньне. Ідуць крывавыя бойкі між першымі й рэгулярнымі войскамі якія бамбандыруюць Фуркурте, у якім заселі і абараняюцца паўстанцы. Паўстаўшыя добра ўзброены і маюць харчы. Яны з'яўляюцца прыхільнікамі дэ'Валера і дабіваюцца поўнае незалежнасьці ад Англіі.

### Забойства Ратэнау.

Праз нямецкіх манархістаў застаўся забітым міністр замежных справаў Нямяччыны фон Ратэнау, адзін з сьвятлейшых і здольнейшых мужоў дзяржавы, які вёў згодную, мірную палітыку. Гэта забойства ўзрушыла весь цывілізаваны сьвет і абурылы супраць нямецкіх манархістаў. Прадстаўнікі левых нямецкіх кірункаў прапануюць Ураду прыняць энэргічныя крокі проці манархістаў.

### Забастоўка наборшчыкаў ў Бэрліне.

У Берліне бастуюць наборшчыкі і рабочыя ўсіх выдавецтваў. Бастуючыя дамагаюцца падвышкі пэнсіі.

### Гаагская канфэрэнцыя.

У даны мамэнт у Гаазе адбываецца канфэрэнцыя эўрапэйскіх дзяржаў з удзелам прадстаўнікоў Савецкае Расеі. Галоўным пытаньнем з'яўляецца эканамічнае адбудаваньне Эўропы. На паседжаньні крэд. падкамісіі Літвінаў запрапанаваў плян адбудаваньня Расеі, згодна з якім патрэбна балей 3-х мільярдаў руб. золатам на рэканструкцыю камунікацыі, сельск.-гаспадарства, прамысловасьці і ўрэгуляваньня валюты.

### Прадажа Белавежскай пушчы.

14 чэрвеня ў Варшаве Польскім Урадам зроблена ўмова з ангельскай кампаніяй аб прадажы Белавежскай пушчы. Згодна ўмове кампанія абязуецца эксплёатаваць лес у працягу 20 г., плацячы Польшчы пэўную суму за кожны штандарт распілаванага матар'ялу ў ангэльскай валюце. У карыстаньне ангельцаў пераходзяць усе істнуючыя будовы 23 гатэра і каля 500 кілёмэтраў вузкай чугункі.

Вырубаныя плошчы мусяць быць выкарчаваны і даведзены да аранага поля.

Для вывазу польскі ўрад абавязаўся даваць штадзенна 100 вагонаў.

### Новы кабінэт у Польшчы.

Пасьля зацяжнага міністэрскага крызысу абавязкі прэм'ер-міністра прыняў п. Сьлівінскі. Новы кабінэт яшчэ ні саўсім сфармаваны. Партфэль міністра скарбу згодзіўся прыняць п. Ястрэмбскі. 5 ліпня п. Сьлівінскі на паседжаньні Сойму агалосіць свае exposé.

### Хвароба Леніна.

Здароўе Леніна да гэтага часу не папраўляецца. Аб характары яго хваробы з'яўляюцца ў друку рожныя дагадкі й вэрсіі, але запраўднае хваробы ніхто ня ведае. Хутчэй за ўсе ў яго ўтрата сілаў на грунце перапрацаванасьці. Часова ён ня можа займацца працаю й як перадаюць газэты, выедзе на лета ў Лівадзію, дзе будзе жыць у былых царскіх палацах. На яго места для кіраваньня стараною зьявіцца трыумвірат, зложаны, скарэй усяго, з Бухарына, Сталіна й Зіноўева.

### Нямецкае консульства ў Кіеве.

У Кіеве адчыніла сваю чыннасьць нямецкае консульства. Ня гледзячы на цяжкі кватэрны крызыс, бальшавікі найшлі і на нова адрамантавалі багатае памешканьне ў якім да гэтага часу знайходзілася вайсковая ўстанова.

### Украінізацыя правасл. царквы.

На усей Украіне вядзецца вялікае змаганьне сьвяшчэннікаў-украінцаў і міран з русіфікатарамі й маскалямі за ўкраінізацыю правасл. царквы. Барацьба дае пажаданыя вынікі для ўкраінцаў і шмат у якіх царквах ў Кіеве, Харкаве і інш. местах Украіны імша адбываецца на ўкраінскай мове. Бліжайшаю мэтай украінцаў ёсьць скліканьне ўкраінскага сабору.

# Літоўскія справы.

### Прызнаньне Літвы Вэнэцуэлай.

Эльта паведамляе, што рэспубліка Вэнэцуэлы прызнала літоўскую дзяржаву de jure (па праву).

### Рада паслоў і Літва.

Рада паслоў разглядала пытаньне аб прызнаньні Літвы de jure (па праву). Дэлегаты Англіі, Японіі і Італіі прынцыпова згодны прызнаць Літву de jure, але ставяць гэта у залежнасьці ад выпаўненьня варункаў вынікаючых з Вэрсальскага трактату, якія Літва павінна падпісаць і прызнаць.



# Беларусы ў Латвіі.

## Беларускія школы Люцынскага павету.

Люцын. 15. VI. 22 (ад ўласнага карэспандэнта). Як я ўжо паведамляў, ў нашым павеце, па зацьверджанай Школьнай Управай Паветавай Школьнай Сеці, працуе 31 беларуская школа.

Мне удалося атрымаць вельмі цікавыя статыстычныя даныя аб гэтых школах за 1921/22 вучэбны год. Лічучы, што яны зацікавяць грамадзянства наша, я даю іх тутака цалком.

| ПАВЕТ. | Лік настаўнікаў. | Лік і падзел вучняў. | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Дашкольн. кляса. | I кляса. | II кляса. | III кляса. | IV кляса. | V кляса. | VI кляса. | Разам. | Беларусаў. | Палякоў. | Іншых нацыяў. | Разам. | Каталікоў. | Праваслаўных. | Іншых веравызн. | Разам. | Хлапцоў. | Дзяўчат. |
| Люцынскі. | 72 | 739 | 772 | 541 | 244 | 81 | 13 | — | 2390 | 2094 | 59 | 237 | 2390 | 681 | 1390 | 319 | 2390 | 1362 | 1028 |

Агульны лік беларускіх дзетак і слухаючых навуку ў беларускіх школах Люцынскага павету, даходзіць, як вышэй відна, да 2100 чалавек. Але ня глядзячы на тое, што пачатковае навучаньне ў Латвіі для усіх абавязкова, зарэгістравана яшчэ каля 3000 беларускіх дзетак, якія ў школу зусім не хадзілі і ня ходзяць. Падаўляючая большасьць з іх ня ходзіць толькі дзеля таго, што няма ў чым ісьці да школы.

Сялянства надта зруйнована вайной і рэквізыцыямі бальшавіцкіх улад і да гэтага часу яшчэ не змагло узмацавацца. Дзякуючы гэтаму, ў цэлым радзе вёсак многія сямейкі сядзелі ўсю зіму бяз ботаў і вопратак ў хаце.

Лютая зіма і вялікі сьнег ня мала перашкаджалі школьнай працы: дзеткі некаторых школак вельмі папрастужываліся і лядзьве не пагалоўна перахварэлі гішпанкаю.

Але, не глядзячы на ўсё гэта, мінулы школьны год прайшоў са значнымі усьпехамі, якія даюць магчымасьць лічыць, што хвараблівасьць школы ужо закончылася і яна зноў пачінае аздараўлівацца і умацоўвацца.

## Беларуская Гімназія ў Люцыну.

ЛЮЦЫН, Вестка аб адчыненьні Беларускае Гімназіі ў Дзьвінску вельмі ўзрадавала Люцынскіх беларусаў і яны пастанавілі зьвярнуцца да Міністэрства Прасьветы аб адчыненьні Беларускае Гімназіі і ў Люцыну.

Люцынскі Аддзел Т-ва „Бацькаўшчына“, праз Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Прасьветы, ўжо зьвярнуўся з належнаю просьбаю да Міністэрства і атрымаў запэўненьне ў тым, што Беларуская Гімназія будзе адчынена і ў Люцыну.

## Беларуская школа ў Дзьвінску.

ДЗЬВІНСК. Мястовая Дзьвінская Школьная Рада, на сходзе 8.V.22, пастанавіла з восені гэтага году адчыніць у м. Дзьвінску Мястовую Аснаўную Беларускую Школу.

Бацькі-беларусы гэтай пастановай не задаволіліся і, з дапамогай Таварыства „Бацькаўшчына“ і Беларускіх настаўніцкіх Курсаў ў г. Дзьвінску,— адчынілі 12.V.22 Прыкладную Беларускую Школу пры Беларускіх Вучыцельскіх курсах.

Навучэньне ўжо пачалося і будзе ісьці усё лета.

Запісалася вучняў 137 асобаў.

## Бел. Вучыц. Курсы ў Коўні.

У Коўні зацьверджаны Літоўскім урадам і скора будуць адчыняны Беларускія Настаўніцкія Курсы на 30 асобаў.

# Сялянскі інтэрнацыянал.

Беларуская Дэлегацыя на Генуэскай канфэрэнцыі мела гутарку з сябрамі Італьянскага Парляманту, дэпутатамі ад селян, з якімі навязала блізкія адносіны на платформе ўсесьветнага селянскага аб'яднаньня. Дэлегацыя атрымала запэўненьне, што дамаганьня белр. селян. будуць падтрыманы сялянствам Італіі. Арганізатару Італьянскага селянства дэпутату Скотті Беларуская Дэлегацыя выслала гэткага зместу тэлеграму:

„Прадстаўнікі Селянскай Беларусі ад'езджаючы з Генуі засылаюць Вам, заснаўцу сялянскай еднасьці прывітаньне і пажаданьне хутчэйшага арганізаваньня сільнага сялянскага інтэрнацыяналу у якім беларускі народ прыйме учасьце ўсей сваей 12-ці міліённай массай“.

(падпісалі): { *Ластоўскі.* *Цвікевіч.*

# Культурная праца ў Савецкай Беларусі.

(Глядзі № 13 (38).

Найбольшай аднак славаю Савецкае Беларусі ёсьць Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Дый справядліва. Адкрыцьце першага Унівэрсытэту—то-ж цэлая эра ў жыцьці народу. І які-б ня быў цяпер гэты унівэрсытэт (а як пабачым выглядае ён, раўнуючы прынамсі да некаторых „заходніх“ унівэрсытэтаў—саўсім някепска), якая-б доля яго ні чакала у бліжэйшай будучыне, але збурыць яго, збурыць ідэю беларускага Унівэрсытэта, хіба што не адважыцца не адна хоць крыху цывілізаваная ўлада. Дык адкрыцьцё Беларускага Унівэрсытэту—гэта

папраўдзе гістарычная заслуга тых людзей, якія на гэта палажылі шмат клопату і сілаў.

Унівэрсытэт складаўся у 1921 годзе з факультэтаў: а) медыцынскага і b) грамадзкіх навук (гуманітарнага); апроч таго працаваў работніцкі факультэт. Факультэт гуманітарны распадаўся на аддзелы: а) юрыдычны, b) эканомічны, c) філёлёгічны і d) пэдагогічны.

Прыймаючы пад увагу, што ў даўнейшых расейскіх унівэрсытэтах гэтыя аддзелы былі самадзельнымі факультэтамі, бачым, што Беларускі Дзяржаўны Унівэрсітэт разьвярнуўся адразу досіць шырака, бо аж на 5 аддзелаў. Першым рэктарам Унівэрсытэту выбраны праф. В. Пічэта, вядомы вучоны гісторык з Маскоўскага Унівэрсытэту. Дзеканам Гуманітарнага Факультэту быў праф. У. Ігнатоўскі—даўнейшы дырэктар Пэдагогічнага Інстытуту. Прыводзім тут і першы склад прафэсараў Унівэрсытэту, бо гэта таксама дае матар'ял для ацэнкі яго вартасьці. На сходзе Дзяржаўнае Вучонае Рады 9 верасьня 1921 г. зацьверджаны прафэсарамі: 1) В. Д'якоў—па кат. гісторыі зах.-эўроп. літэратураў, 2) В. Перцаў—Агульнае Гісторыі, 3) Н. Нікольскі—Гісторыі Рэлігіяў, 4) В. Жарнаў—Расейскае Гісторыі, 5) В. Пічэта—Расейскае Гісторыі, 6) Ф. Турук—Гісторыі Беларусі, 7) С. Лазінскі—Гісторыі жыдоўскага народу, 8) І. Салаўёў—Пэдагогікі, 9) В. Н. Іваноўскі—Філёзофскіх дысцыплінаў, 10) Н. Янчук—Этнографіі, 11) С. Гурвіч—Дзяржаўнага Права, 12) Д. Капчалоўскі—Агульнае Гісторыі, і лектарамі: 1) Н. Шараў—Расейскае Гісторыі, 2) Д. Мейчык—Гісторыі права, 3) О. Панасюк—Славянскае Філёлёгіі, 4) М. Сыркін—Гісторыі мастацтва, 5) С. Вольфсон—Гісторыі матэрыялізму, 6) І. Гэрцын—Гісторыя соцыялізму і палітычнае эканоміі, 7) А. Вазьнесенскі — Гісторыі расейскае і польскае літэратуры, 8) М. Рабіновіч—Гэбрайскае мовы і літэратуры, 9) Е. Сьвятлоўскі—Статыстыкі, 10) В. Якунін—Філёлёгіі, 11) Літвін-Гэльфэльд—Гісторыі жыдоўскае культуры. Гэтак сама будзе выкладаць у Унівэрсытэце і праф. У. Ігнатоўскі - пэўна нейкі з прадметаў беларусазнаўства. На мэдыцынскім факультэце зацьверджаны прафэсарамі: 1) Н. Андрэеўна—кат. Фізыкі, 2) Б. Бергэйм—Орган. хіміі, 3) М. Кроль—Нэрвовых хваробаў, 4) В. Лепешкін—Ботанікі, 5) А. Калужскі—Агульнае географіі, А. Лунц—Анатоміі і Гістолёгіі.

Большасьць з паміж гэтага прафэсарскага складу — маладыя, падаючыя добрыя надзеі сілы; ёсьць аднак і заслужаныя старыя навуковыя працаўнікі. На першых парах большасьць навукаў будзе, відаць, выкладацца па расейску; гэта аднак не перашкаджае унівэрсытэту весьці вялікую і вельмі карысную беларускую навуковую працу. З часам-жа Унівэрсытэт выгадуе і сьцягне да сябе і кадр прафэсароў, якія ня толькі думаць будуць па беларуску, але і выкладаць. У Унівэрсытэт прыймаюцца толькі асобы з закончанаю сярэдняю адукацыяю. На мэдыцынскі-ж факультэт патрабуюць яшчэ здачы колёквіўма, пры чым летась з 1300 асоб, падаўшых просьбы на гэты факультэт, было прынята толькі каля 280 чал. На гуманітарным факультэце—800 чал. Сярод студэнтаў пераважаюць кабеты. Пэдагогічны аддзел складаецца з слухачоў даўнейшага Пэдагогічнага Інстытуту.

Аб навуковых спосабах Унівэрсытэту дакладных данных у нас няма. Ведама толькі, што пры мэдыцынскім факультэце устроены анатомічны тэатр на 200 ч., як лічаць адзін з лепшых у Расеі. Ужо абстаўлены вялікі фізычны кабінэт і хімічная лабораторыя, якая забясьпечана ўсімі прыладамі, прэпаратамі і рэактывамі на 2—3 гады. Арганізаваліся на пачатку прошлага году і шмат іншых габінэтаў: анатомічны, геолёгічны ды інш.

Цікавай і вартай увагі арганізацыяй ёсьць работніцкі факультэт пры Унівэрсітэце. Іншымі словамі кажучы, гэта—народны Унівэрсітэт, з тэю толькі розьніцаю, што мае ён саўсім вызначаны склад слухачоў, найбольш адкамандзіраваных розьнымі партыйнымі, профэсыянальнымі і грамадзкімі установамі і да канца курсу ня маючых права кінуць навукі. Слухачы разьбіты на цэлы рад дробных групаў, а заняткі на гэтым факультэце маюць два заданьні: 1) дапоўніць сярэднюю адукацыю слухачоў і даць ім ужо пэўныя навыкі да навуковае працы, якую яны будуць весьці далей у сьценах нормальных унівэрсітэцкіх факультэтаў. Факультэт гэты значыць у хуткім часе прыгатуе праўдзівую народную, работніцкую інтэлігэнцыю. Для нас цікавы і нацыянальны склад слухачоў. З 285 чалавек іх найбольш, праўда, жыдоў, але беларусаў ёсьць 107 чал., расейцаў-жа толькі 3. Цікава яшчэ, што комуністаў сярод слухачоў толькі каля 30%, рэшта—беспартыйныя.

З пачатку 1921 г. у Менску істнуе яшчэ адна вышэйшая школа: Беларускі Дзяржаўны Політэхнічны Інстытут, перафармаваны з даўнейшае сярэдняе Політэхнічнае Школы. Мае ён цэлых 6 аддзелаў: інжынэрна - будаўляны, мэханічны, электротэхнічны, мэліоратыўны, тэхно-хімічны і лясны. Гэты год істнавалі ужо трэція курсы па большасьці аддзелаў. Студэнтаў у Інстытуце было на пачатку акад. году 624 ч. Зьмяшчаецца Інстытут у будынку даўнейшае Камэрцыйнае Школы.

Такім чынам наш закінуты, занядбаны старою расейскаю уладаю Менск мае цяпер дзьве вышэйшыя беларускія школы, цэлы рад сярэдніх і пачатковых школ з беларускім выкладаньнем. Мала хіба якія месты адбывалі гэткую шыбкую эволюцыю, як сталіца Беларусі. У сьценах, прапітаных русыфікацыйным духам, дзе яшчэ, гэтак і здаецца, ходзяць чорныя цені істінно - рускіх пэдагогаў, будуецца беларуская культура і будуецца моцна. Савецкая Беларусь з кожным годам усе віднейшае мейсца займае ў беларускім культурным жыцьці. Трэба толькі, каб праца яе дзеячоў была згоднаю, скоордынаванаю з беларускаю культурнаю працаю ў іншых частках Беларусі. Разьдзеленая дзяржаўнымі граніцамі мы павінны старацца, каб не дзялілася хоць нашае культурнае жыцьцё ды праца, каб не траціліся дарма нашыя, тымчасам яшчэ невялікія, культурныя сілы.

**А. Ж.**

# РОСПАЧ.

О, Беспатольная, бел-чыстая
з ліхадзеемі не рашучая —
аб Табе да зямелькі камяністае
прыпадаю ад болі пякучае.
Б'юся як рыба аб лёд —
кроў, сьлёзы, пот...
То-ж адабралі, глумяць Жалейку.
Крывавым штыхом распаловілі
безабаронную, працоўную Сямейку.
З падваротні сытым назласловілі
пра гора ціхае, жабрачае;
пра хараство юначае;
пра заімшэлую Вялікую Руіну.
А дакола каркаюць, што не ўваскросшы [згінеш,
што мову матчыну
ў забыцьцё кінеш.
А дакола дужыя, ляскаючы клыкамі,
рвуць сквапна цела кускамі: —
Няміга, Люблін і Рыга —
калі скрыша іх вясны нашай крыга?!

---

Ах, ясі Ты праклёныя кусочкі.
Нахадзілася з сваей хаты ў прочкі.
Настаялася ў пераможцаў пры парозе.
Намадзелася нявіннай у вастрозе.
Начулася гідкіх нагавораў.
Пакалечыла душу аб нораў
прагавітых прыблуд—ліхадзееў.
Спахмурнела ад грозных падзеяў...

---

Як балюча цягучая ноч роспачы, гора.
Бы ліпкае павуценьне аплутала змора.
Рабскі жах, нявера душы набалелай
точаць корань Руні і цежараць думу.
Па Краіне працы і задзерванелай
значан сьлед крывавы ўладарнага Глуму.
Славу здратавалі!
Замест неба—клетка каваная з сталі.
А замест сьвітаньня—зарава пажараў...
Ах, раніца-краля і вечар-багач
усьцішця жальбу, стогн і плач
дзіця ад зямелькі, дзіця сіраціны
бяз Імяні, Долі, Айчыны.
— — — — — — — — — —
Ў немач кінула адвечная пакора.
Ня ўтопіш у сьлёзах Ты гора.
— — — — — — — — — —
Ах, калі-ж узойдзеш бяз прынукі
на гальготу адраджэнскага Руху!
Ах, калі-ж працерпіш тыя мукі,
Што дадуць незалежнасьць Твайму Духу!

**Л. Р.**

* * *

Я жадаю цябе,
Я чакаю цябе
І малюся: „прыдзі“!

Чыстатою сваей
Боль грудзёў зразумей,
Радасьць ў серцы збудзі!

А аб чым жа баляць
Твае грудзі й крычаць?
Запытаешся ты.

Ўсё жальбуюць яны,
Што між зьдзеку, маны
Паднявольная Ты.

**Зьміцер Курыль.**

# Раніцаю.

Ясната, пекната.
Неба сінь—любата.
Вось дзянёк!

Цёмны гай, неўнарай,
Вабіць быццам той рай
У цянёк.

Па траве, мураве
Ветрык вее, плыве
Лёгка так.

Скошан лог; у каласох
Сьпее жыта ў палёх,
Ў градах мак.

Згода, ціш. Не ляціш
Вольнай думкай у выш
Ад зямлі —

Добра тут. Бачыш цуд: —
Сьвет, цяпло, родны кут
Спавілі.

**Ўл. Жылка.**

* * *

*Ахв. А. Гурло.*

Быў вечар румяны... З заходу
Праменньняў сьвяціла карона,
І рэчкі прыціхшыя воды
Застылі бяззвучна і сонна.
Ў кустох салаўі замаўчалі
І песьня жняі абарвалась...
Ў той вечар мы блізкімі сталі,
Хоць першы раз ў жыцьцю спаткалісь.

Люблю я нязнаныя чары
Ў час дня светазарнага скону,
Аб шчасьці занікнуўшым мары,
Аб жыцьцю парваўшымся звоны.
Ў жыле пекнасьць ты бачыш так сама,
Бо ведаеш добра і знаеш,
Што новыя дні за начамі
Заўсюды ў прыродзе страчаеш.

Мы смутна на сонца глядзелі
І новага раньня чакалі,
А лісьці ў саду шалясьцелі —
Нам дзіўныя байкі шапталі.
Ды ноч на радзімыя горы
Лажыла касматыя цені
І густа блішчастыя зоры
Таліла ў нямым аддаленьні.

**Ф. Чарнышэвіч.**

# Еду дамоў.

Даўно ня быў я на вёсцы ўлетку.

Даўно ня відаў таго бязьмернага хараства роднае прыроды, якое адно ніколі не зьмяншаецца, ніколі не марнеець.

Наадварот—яно расьцець і расьцьвітаець, набіраець няведанае цаны уваччу з кожным новым годам майго жыцьця, з кожнай новаю сустрэчай пасьля даўгога разлучэньня.

Прыдзе час, і зьявяцца вялікія песьняры і пісьменьнікі беларускае зямлі, каторыя патрапяць дасканальна паказаць прыгожым словам тое, што поўніць мае грудзі, а што выказаць ня маю сілы.

Цяпер-жа не адзін я пішу з няволі, пішу дзеля таго, што яшчэ дрэмлець запраўдны поэтычны геній нашага высока адаранага народу.

Можа быць, я надта стаў нэрвовы ад сучаснае завірухі, але здаецца мне, што сьлёзы, якія неўспадзеўкі накруціліся на родным полі і якія стараюся схаваць ад сваіх здаровых падарожнікаў-сялян, што яны—добрыя сьлёзы.

Бяспэчнае, дарагое і любое чуцьцё красы плачаць ува мне.

У чужых краёх, глядзеўшы на вялізарныя горы, шырокія рэкі, пладаносныя дрэвы і на ўсё тое, што хорашо, а ў нас на Беларусі яго няма або яно горшае, а таксама любаваўся, харашэў душою, быў поэт, але ня плакаў.

І зтуль, з чужыны, імкнулась думка да родных жытных ніваў, з маркотаю гамонных лясоў, спакойных пералескаў.

— Таму, што ўзгадаваўся на тым мізэрным лапіку зямное кулі,—казалі мне.

А што, калі і гэтак? Спрэчнае пытаньне: якое хараство маець вышэйшую цану,—ці тое, каторае здаецца гэтакім з прадвеку найвялікшаму чыслу людзей, ці тое, што выклікае ў мяне сьлёзы?

Цэннасьць хараства залежаць для людзей ад успрыйманьня.

Я-ж успрыймаю так, як на тое паказала маё ўзгадаваньне, мой сьветагляд, мае пачуцьці, а можа быць і бацькаўская кроў.

Гармонік і рояль—дзьве рэчы зусім непараўнаныя паміж сабою. Але я знаў расейскага паэта, што пад раялевыя гукі плакаў, спамінаючы марнотна-звонкі гук гармоніка ў расейскім цёмным полі жніўнаю начою. Я ня дзівіў яму...

Мабыць з падобнае-ж прычыны мне найлюбей за ўсё на сьвеце відаль раўнін, якія вось раскінулісь з узгоркамі наўкол і ўздоўж пыльнае дарогі.

Сто вёрст буду ехаць я да свае хаты па гэтым шэранькім шляху сярод жыта і яравога поля, потым у лесе, і ўзноў у полі.

Буду ехаць, і піць сьвежае паветра, і плакаць, як поэт.

**М. Гарэцкі.**

28. VIII. 1921.

# Віленскі Саюз Каапэратываў.

— Ці будзе істнаваць далей Віленскі Саюз Каапэратываў?—захочаці Вы даведацца з гэтага загалоўка. Ня пытайцеся! Няварта варажыць; ды і ня мае гэта вялікага значэньня. Трэба, каб каапэрацыя істнавала, а гэта значыцца фірма: Віленскі Саюз можыць і ня быць, толькі-б добра працавалі каапэратывы на мяйсцох.

Сам па сабе Віленскі Саюз Каапэратываў аплёваны польскай прэсай на чале з «Gazetaj Krajowej» і „Gazetaj Wileńskaj“, спатыкаючы варожыя адносіны урваднікаў, бо лічыцца Беларускім страціў крэдыт. Тыя, хто першыя плевалі: Вольскі і Цыбулька, называючы старую Управу, якая працавала да лістапада 1921 г., „зладзеямі“, цяпер сядзіць поплеч за адным сталом з нова выбраным старым сабрам Управы п. Сталыгвай. Паны Вольскі і Цыбулька, абыйшоўшы усе саюзы ў Вільні, хоць можа і знайшлі ў іх значна горшыя рэчы, чым яны бачылі ў Віленскім Саюзе, але дзеля таго, што гэныя Саюзы лічуцца „польскімі“, дык шовінізм паноў Вольскіх і Цыбулек ім казаць праўду не дазваляе, а ня маючы іншага каапэратыўнага прытулішча, яны узноў ільнуць да працы ў Віленскім Саюзе Каапэратываў і цяпер хочуць ратаваць замераючы Саюз. Эх, паны! Лёгка зруйнаваць, а стварыць новае вам не пад сілу, хоць Вы і лічыце сябе гэнераламі ад каапэрацыі!

Ня варта прыдаваць вялікага значэньня гэтаму Саюзу. Можа ён і узмацуецца і будзе добра разьвівацца, чаго мы шчыра яму жадаем.

Каапэратары на вёсках аднак павінны ведаць, што ў поўнай меры Віленскі Саюз іх абслужываць скора ня зможа і ім трэба вясьці арганізацыю па райённа, гуртуючыся ў райённыя закупачныя бюро ці райённыя Саюзы, запрашаючы на працу інструктароў каапэрацыі. Трэба пачаць будаваць каапэрацыю з нізу. Калі створыцца некалькі Саюзаў райённых, лёгка ім будзе злучыцца ў краёвы Саюз Саюзаў. Чаму Саюз у Лідзе можыць істнаваць, а ў Вялейскім павеце, напрыклад, не?—запытаемся мы тых, хто скажа, што з райённых Саюзаў нічога ня выйдзе. Каб навет нічога ня вышла, дык трэба шукаць шляхаў для арганізацыі каапэрацыі у краі.

За працу каапэратыўныя дзеячы на мяйсцох! **Эсчэ.**

# Карэспандэнцыі.

**М. ВЯЗЫНЬ, Вялейскага павету.**

У нашага абшарніка Гіцэвіча, ці з яго ведама ці не, фальварак Располя нібы то аднялі і аддалі польскім жаўнерам. У фальварку гэтым ўжо па гадоў 20 жылі работнікі Гіцэвічавы, народ саўсім бяззямельны. Дык вось, жаўнеры цяпер гэтых

работнікаў саўсім выкінулі вон з панскіх хат саўсімі іх пажыткамі. Аднаго работніка Пракопа Філістовіча, гетыя жаўнеры выкідалі з хаты аж два разы. Ўсе гэтая гаротнікі сабраліся і падавалі просьбу і Начальніку павета і ваяводзя у Навагрудак і аж ў Сойм ў Вашраву і нібы адтуль прышла папера, што выганяць іх ніхто ня мая права, але жаўнеры стаяць на сваім і нет—ведама чым кончыцца.

С. Саха.

### Вёска КРАСНІЦЫ Вялейскага павету.

Наша вёска ад вякоў пасьвіла скаціну у лесе пані Стасевічыхі, бо сваей пашы ня мае ані пядзі. Але вось настаў такі час, што п. Стасевічыха пачула свае уладарства і забараніла пасьвіць у сваім лесе. Гэта было сёлета. Ведама загад пані ня быў выкананы, бо ня губіць жа скаціну у хлеве. Ня доўга прышлося чакаць на суд. Што пані засудзіла краснянцаў дык аб гэтым бадай і казаць ня трэба, але вось цікава, што сьведка пані, яе лясьнік пачаў бараніць сялян; тады суддзя I акругу у Вялейцы стаў напамінаць лясьніку, што ён за каго сьведчыць за таго павінен і казаць.—Я, кажа лясьнік, прысягаў і мушу казаць праўду.

М. Дужы.

### Праступная агітацыя.

У Ваўкавыску ксёндз так шчыра узяўся за абавязкі духоўнага пастыра, што шлюбы, хаўтуры і інш. адпраўляе сам бяз вікарага, навет ходзіць і да школ, каб зрабіць належны уплыў на дзяцей.

Але варта напісаць, якім гэта спосабам адбываецца. Перш-на-перш у казаньнях сваіх мала кажа аб справах рэлігіі, але за тое шмат гідкіх выдумак з мэтай агітацыі супроць не каталіцкага жыхарства.

У казаньнях сваіх кажа, што Бог пакараў Польшчу дарагавізнай, неўраджаем і што гэта будзе трываць да туль, пакуль паганская некаталіцкая нага будзе таптаць польскую зямлю. Бо польская зямля, якую топчуць жыды і русіны (чытай: беларусы. Рэд.) ня будзе радзіць, а жыдоўскія каровы заразяць усе жыхарства. У гэткім духу ксёндз разводзіць і далей казаньні, даводзячы, што кожны беларус ёсьць чорт, бо ў яго „вырастаюць рогі“, і калі людзі гэтага не бачаць, дык толькі дзеля таго, што яны гэтага яшчэ не заслужылі у Бога, вось сам ксёндз дык гэта бачыў у школе у беларускіх дзяцей і гэт. дал.

Пасьля ксёндз ідзе ў школу і, шчупаючы галоўкі дзяцей, пазнае, якое дзіця ёсьць каталіцкае, а якое не каталіцкае.

Калі гэты ксёндз даваў шлюб каталіку, які жаніўся з русінкай дык спаткаў маладых у касьцеле выставіўшы катафалак з дамавінай.

Б. С. („Robotnik“).

## Беларускае жыцьцё.

### Беларускае радав. выдавец. у Бэрліне.

Беларускае замежнае радавае выдавецтва друкуе у Бэрліне гэткія кніжкі: 1. Некрашэвіча—Лемантар. 2. Тэраўскі спеўнік. 3. Кіселева—Алгебра. 4. Цішкі Гартнага-„Бацькава воля“, раман I часьць.

### Беларуская тэрміналёгія па анатоміі і фізыялёгіі чалавека.

Вядомы белар. мастак Язэп Драздовіч апрацаваў і перадау на перагляд Белар. Навуков. Таварыству тэрміналёгію анатоміі і фізыялёгіі чалавека.

### Беларуская Драматычная Майстроўня.

Пры Беларускім Камітэце помачы ахвярам вайны адчынена сэкцыя: Драматычная Майстроўня.

Кіраўніцтва Майстроўні выпрацавала гэткія тэзы:

1) Культурнае разьвіцьцё кожнага народу і узрост яго нацыянальнай сьвядомасьці залежыць ад узросту творчых духовых сіл.

Выдатную ролю у гісторыі народаў займае тэатр. Беларускі тэатр за кароткі час істнаваньня даў багатыя вынікі сваей працы і абецае спадзейную будучыну.

2. Перыяд аматорскага трактаваньня Беларускага Тэатру мінуў. Дасьпеў час прыступіць да сапраўды мастацкай творчасьці, каб наш тэатр быў ня толькі паважна-агітацыйным чыннікам у соцыяльна-нацыянальным разьвіцьці Беларусі, але і абагачываў душу народную досьледамі у заваеваньнях сучаснага тэатру у абшарах чыстага мастацтва.

3. Дзеля стварэньня Беларускага Тэатру (п. 2) з дружыны артыстаў і мастакаў беларусаў у Вільні арганізуецца Драматычная Майстроўня, якая мае на мэце: а) прыблізіць тэатр да народу, а народ да творчасьці, б) шукаць новых праяў у творчасьці тэатру, в) тэаратычная падгатоўка для аматараў, г) пашырэньне мастацкага тэатру на Беларусі і д) кіраўніцтва і арганізацыя провінцыяльных Драматычных Гуртсоў.

З ахвяр, сабраных паміж месцовым грамадзянствам Кіраўніцтва Майстроўні збудавала сцэну у залі Беларускае гімназіі (Вастрабрамская, 9), дапасованая дзеля вялікіх пастановак. Патрэбна яшчэ зрабіць рамонт залі, намаляваць дэкарацыі, заслону, правясьці сьвятло і іншае, але недахват грошы спыняе часова працу.

Да прадстаўленьня гатуюцца гэткія п'есы: „Раскіданае гнязло“, драма ў 5-х актах Я. Купалы, „У зімовы вечар“, драматычны абраз ў 1-м акце Э. Ожэшко, „Лес шуміць“, драма ў 2 х актах, інсцэнізацыя з Караленкі, „Страхі жыцьця“, драма ў 3 актах Ф. Аляхновіча і інш.

Драматычная Майстроўня будуецца дружна і з вялікай трываласьцяй заклад-чыкамі, ня гледзячы на вельмі трудныя абставіны працы.

Драматычная Майстроўня гэта першая проба збудаваць паважны мастацкі Беларускі тэатр—яна вызвала зацікаўленнасьць сярод мяйсцовага грамадзянства, якое аказывае магчымую запамогу і шчодрае на прыхільнае слова.

### Новая авантура.

Пасьля тага, як сам пан Аляксюк аканчальна праваліўся ў сваей рабоце, некалькі яго верных служак згуртаваліся ў Горадне й заклалі Арганізацыю Беларускіх Безпартыйных Актывывістаў і выдаюць газэту „Беларускі шлях“ ні па мове, ні па напрамку беларускаю назваць яе нельга—праз безграматна напісаныя радкі яскрава сьвецяцца паланізацыйныя тэндэнцыі. Ведама падобная партыя і яе газэта ня могуць карыстацца уплывамі між беларусаў. Ня мае яна пашаны й між палякоў. У № 4 таго-ж „Белар. Шляху“ мы чытаемо, што ў Ваўкавыску палякі—ўрадоўцы разагналі з'езд гэтых паноў. Даслужыліся!

### Беларускае Грамадзянскае Сабраньне.

Польскае уладай зацьверджан статут Беларускага Грамадзянскага Сабраньня якое—адкрыла сваю дзейнасць, канцалярія часова знаходьзіцца 2-ая Партовая №11—1. Часовы Урад складаецца: Валэйша, Ярэміч і Канапацкі. Запісь у сябры прымаецца ад 9—10 раніцы на Партоваў вул. і ад 8—9 веч. Біскупская 12. белар. муз. др. гуртку. Аб агульным сходзе будзе абвешчана.

### Другі выпуск матурыстаў у Віл. Беларускай гімн.

25 чэрвеня у залі Беларускай гімназіі адбыўся акт выпуску матурыстаў. У прысутнасьці сабраўшайся публікі дырэктар гр. Кахановіч, сэкратар Цэнт. Шк. Рады гр. Смоліч віталі матурыстаў, выказываючы пажаданьня бачыць іх шчырымі працаўнікамі на ніве адраджэньня сваей Бацькаўшчыны. Атэстаты сьпеласьці былі выдадзены: Акушка Ганна, Гарлачына Ганна, Гурвіч Рахіль, Грышкевіч Вінцук, Гальпэрн Я., Ігнатовіч Міхал, Інфэ Ф., Дзехцяроў Кастусь, Казлоўская М., Казлоўская Т., Казлоўскі Леанард, Каплан М., Корж Ул., Ланцэноўская З., Ланцэноўская Л., Ланцэноўскі Хаім, Ліхадзееўская Марья, Макоўскі Вячэслаў, Малафеева Зінаіда, Малевіч Аўгень, Марухэс Бася, Майзэль Юд., Моэнкэ Алоіз, Нохэмэн Рэвэка, Памошчнік Р., Рабіновіч С., Рофман Г., Селецкая Б., Талейкінскі В., Хволес М., Цыдаровіч Гірша, Шворун Ш., Штэрн Г., Шумялішскі I., Капацэвіч Балеслаў. Пасьля раздачы атэстатаў матурысты і публіка прапяялі „Ад веку мы спалі“. На заканчэньне вучні гімназіі паставілі п'есу „На папасе“ Я. Купалы.

### АКТ—ВЕЧАР I ВІЛЕНСКАИ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.

У нядзелю 25-га чэрвеня гг. у пекна дэкарыраванай залі гімназіі адбыўся акт—вечар матурыстаў. Урачыстае паседжаньне Пэдагагічнай Рады адчыніў старшыня п. Кахановіч, які ў кароткай, але шчырай прамове выказаў падзяку матурыстам ад імя Рады, за тую працу, якую яны вялі разам з Пэдаг. Радай. Па сканчэньню прамовы п. Кахановіча выступалі з прывітаньнямі і лепшымі пажаданьнямі старшыня бацькоўскага камітэта п. Кэпэль і п. Смоліч—прадстаўнік Беларускай Школьнай рады. Ад імя матурыстаў выступіў быўшы вуч. 8 кл. Грышкевіч, які разьвітваючыся з Пэдагагічнай Радай і вучнямі падкрэсьліў, што іх ідэалам з'яўляецца шчасьлівае незалежніцкае бытаваньне беларускага народу ў кантактнай працы з іншымі краявымі нацыянальнасьцямі, і што часовае пакіданьне сваёй Бацькаўшчына для дабыцьця вышэйшай асьветы дасьць магчымасьць вярнуцца больш мацнейшымі, каб падаўшы адзін другому рукі зьдзейсьніць тыя ідэалы, да якіх імкнуліся і імкнуцца шчырыя беларускія сыны Бацькаўшчыны. Пасьля прамовы пэдагог п. Луцкевіч прачытаў прывітальный ліст быўшей вучыцелькі Г. Душэўскай (знаходзячейся заграніцай). Акт закончыўся раздачай матур пад аплодзісмэнты публікі.

Вечар прайшоў даволі ўдачна. Вучні гімназіі згулялі. „На панасе“ абразак Янкі Купалы, а па гэтым пачаліся скокі. Ня залі ня раз дружна скакалі пад гукі духавога аркестру нацыянальныя танцы Лявоніху і Юрку.

N.

## ВІЛЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Эпархіяльны З'езд у Вільні.

27 чэрвеня—1 ліпня адбыўся у Вільні эпархіяльны з'езд Літоўскай эпархіі. Гэта ўжо чацьверты па чарзе з'езд, які адбываецца у Літоўскай эпархіі згодна з пастановамі апошняга (у 1917 г.) сьвяшчэннага сабору праваслаўнай царквы, які скасаваў былы «кансісторскі» рэжым.

На з'езд сабралася каля 80 дэпутатаў, сьвяшчэннікаў і міран, абраных на парахвіяльных і благачынічаскіх сходах.

З'езд разглядаў пытаньні аб ўнутранным жыцьці эпархіі (царкоўныя падаткі, буджэт), а духоўнай прасьвеце, так сама пытаньне аб аўтакефаліі праваслаўнае царквы ў Польшчы.

Праца была падзелена паміж створанымі на з'езде трыма сэкцыямі: 1) агульных спраў, 2) фінансавай і 3) духоўнай прасьветы.

У працы з'езду прымалі удзел прадстаўнікі беларускіх арганізацый: п.п. Смоліч, Кахановіч, Рак-Міхайлоўскі, Красінскі, Г. Багдановіч.

Калі параўнаваць склад і настрой з'езду хаця-б з прошлым годам, трэба адзначыць, што большасьць дэпутатаў ўсё больш і больш пачынае цікавіцца грамадзянскімі справамі і разумець сучаснае становішча нашага краю. Дужа зрусіфікаванае праваслаўнае духавенства ў рэшце шкоднай працы царскага расейскага ўраду пачынае чуць сябе сынамі свайго роднага беларускага народу і з выдатнай прыхільнасьцю адносіцца да беларускай справы.

Галоўную мэту духавенства ў гэтым краю—прасьвета свайго беларускага народу на яго роднай мове—выразна падкрэсьліў п. Смоліч, які вітаў з'езд ад імя Таварыства Беларускае школы.

З'езд разгледзеў усе пастаўленыя яму справы і зрабіў свае пастановы, якія, праўду кажучы, ня ёсьць зусім адпаведнымі агульнаму настрою дэпутатаў дзякуючы таму, што ўся праца з'езду прайшла пад дзейным уплывам мейсцовых духоўных дзеячоў з даволі выразнай фізіаноміяй, ня спрыяючых жывому духу ў мяйсцовай царкве, якая рана ці позна павінна будзе стаць на чале працы культурнага адраджэньня беларускага народу.

Але аб гэтым—у другі раз.

К.

### Справа рэдактараў Літоўскіх газэт.

Віленскаю уладаю зачынены усе літоўскія газэты а рэдактары іх адданы пад суд. У пятніцу у Віленскім судзе слухалася справа Юліі Ластоўскаі, рэдактаркі газ. „Glos Litwy“, П. Сіповіча, рэдактара „Litwy“ і П. Гайдэлёнаса рэдактара „Vilnietis“. Абараняў іх адвакат Врублеўскі. Суд прысудзіў Юлію Ластоўскую к двум месяцам турмы, а справа П. Сіповіча й П. Гайдэлёнаса па фармальным прычынам адложана на 13 ліпня.

### Аб рэгістрацыі ахвіцароў.

Апублікавана распараджэньне ваен. міністра ген. Саснкоўскага абавязваючае усіх грамадзян Польскае Дзяржавы маючых ахвіцерскае званьне зарэгістравацца у раённых Р. К. I з 1 да 31 ліпня 1922. Распараджэньне тычыцца усіх ахвіцароў да 60 гадоў.

### Інтрыгі эндэцыі.

Праваслаўная эпархіяльная рада атрымала ад мяйсц. улады загад, аб выключэньні прав. духавенства з карыстаньня й перадачы пад загад упраўленьня грамадскіх работ целага раду дамоў м. Вільні і між імі Базыльянскіх муроў (Вострабрамская 9) ў якіх месьцяцца ўсе беларускія культурна-прасьветныя арганізацыі м. Вільні. Каб гэта магло здарыцца, то белар. арганізацыі апыніліся-б на вуліцы, як ахвяра зьдзеку і гвалту пануючай эндэцыі.

## Пісьмо да рэдакцыі.

Паважаны грамадз. Рэдактар!

Дазвольце праз Вашу паважаную газэту выказаць шчырую падзяку злажыўшым ахвяры на Драматычную Майстроўню пры Камітэце пом. ахвярам вайны. Ахвяры склалі: грам. грам. Пашкевіч 3000 м., вучні Вілен. прыватнай гімн. О. Р З. 7000 м., Станкевіч Ст. 1000 м., Яцына А. 1000 м., Гапановіч Я. 3000 м., Мядзелка Т. 1000 м., Грышкевіч В. 500 м., Арэхва Л. 1000 м., N 5000 м., ад матурыстаў I Белар. гімн. 2500 м., Аляхновіч Фр. 1000 м., Белар. Студэнцкі Гурток 3000 м., Канчэўскі А. 5000 м., Красінскі М. 1000 м., Сольц С. 200 м., Вішнеўскі У. 4000 м., Стэповіч 1000 м., Гурток Беларускіх Кабет 10.000 м., прат. Пліс 1000 м., Шчансновіч М. 2000 м., айцец Кушнеў М. 1000 м., Барыс Хв. 500 м., Смоліч Ар. 1000 м., Луцкевіч Ан. 1000 м., Краскоўскі Іг. 15000 м., Кэпэль 2000 м., вучні V і VI кл. I. В. Бел. Гімн. 1460 м., др. Почтэр 2000 м., Цэсьля Л. 3000 м., Канчэўскі (па падпісному лісту) 15000 м. Апрача гэтага атрымана ад прадажы экзамінацыйных праграм на атэстат сьпеласьці у Белар. гімн. і гімн. О. Р. З. 10100 м. Усяго 105.260 м.

Кіраўніцтва Майстроўні.

## Паштовая скрынка.

*Ігн. Лабач.* Амэрыка. Газэту Вам высылаем. Пашырайце яе між сваіх землякоў і часьцей згадвайце аб сваей пакрыўджанай Бацькаўшчыне.

## Новыя кнігі.

„Белар. Звонам“ атрыманы для рэцэнзіі такія кнігі:

**Птушка шчасьця.** Ф. Аляхновіч, опэрэта у 3 дзеях. Выд. Віленскага Белар.-Музык.-Драматычнага Гуртка. 1922 г. Цана не паказана.

**Шчасьлівы муж.** Ф. Аляхновіч, вясёлая камэдыя у 4 дзеях. Выданьне Віл. Белар. Муз.-Драмат. Гуртка. 1922.

**Географія Беларусі.** Ар. Смоліч. Выданьне 2-е, значна перарабленае і пашыранае. Выпуск I—Прырода Беларусі. Выд. Вілен. Белар. Выдавецтва Б. Клецкіна. Вільня. 1922.

**Пакрыўджаныя.** Драма у 4-х дзеях Л. Родзевіча. Менск. Выдавецтва Нар. Ком. Асьв. 1922 г.

**Водгульле.** Зборнік вершаў Якуба Коласа. Выданьне Каапэрат. выдавецтва „Адраджэньне“. Менск. 1922 г.

**„Маладое жыцьцё“.** Пэрыядычная часопісь беларускае моладзі № 2 (5) чэрвень 1922 г. Вільня.

**Наш шлях.** Штомесячнік беларускагага студэнцтва № 2—3 красавік—травень. 1922 г. Вільня.

**Фізыка.** Злажыў інжынэр-тэхнолёг А. Нэканда-Трэпка. Выд. Белар. выдавецкага Таварыства. Вільня. 1922 г.

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна М.-Сьцяпанаўская, 23. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.